Цана асобнага нумару 20 грошау.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# НАША ПРАЎДА

[...]віць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на [...] астаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. [...] ўдвая даражэй. Перамена [...] 30 гр.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок петыту ў 1 шпальту.

№ 26 — Вільня, Субота 2-га ліпня 1927 г. — Год I



## Расчынеце вочы!

Пасьля таго, як польскі ўрад зрабіў балючы ўдар адзінаму сялянска-работніцкаму руху сярод беларускіх працоўных масаў, пачалася на-гвалт арганізацыя новых партыяў, якія сваей задачай стаўляюць ужо ня фізычнае, а маральнае разьбіваньне еднасьці працоўных мест і вёсак. Пасьля разгрому Грамады зразу-ж падняді галаву „сельсаюзьнікі" паноў Ярэміча й Рагулі. На дапамогу ім пайшоў кс. Станкевіч з сваей „Крыніцай". Далей выступіў родны брат польскае „Культуры" — „Беларускі Дзень". Далей — „Радыкальная Сялянская Партыя Беларускіх Зямель" паслоў Бона, Шакуна й Шапеля (адшчапенцаў ад „Н. П. Х.") з сваім органам „Сялянскі Голас". Заклаў сваю новую „Нацыянальную" партыю і „доктар" Павлюкевіч. А вось наканцы „Беларускі Сялянскі Саюз" раздваіўся, і замест аднае арганізацыі з „сялянскай ідэалёгіяй" маем ажно дзьве... І ўсе яны стараюцца пераконываць беларускага селяніна, што адзіны ратунак для яго—ісьці не ў вялізарнай грамадзе працоўных, якая злучала-бы і сярмяжнага вяскоўца і мястовага работніка, а — *асобна ад усіх другіх працоўных*!

Чаму гэткая абасобленасьць? Каму карысна аслабляць адзінства працоўных места й вёскі, разьбіваць магутны сялянска-работніцкі фронт?

Ясна-ж: таму, хто ня хоча зьмены сучаснага сацыяльнага ладу, каму й цяпер добра жывецца — пад панаваньнем буржуазіі. І з-паза плечаў калі ня ўсіх, дык большасьці прапаведнікаў абасобленьня нашага сялянства ад ягоных натуральных саюзьнікаў у месьце пачынае паказывацца патроху палітычная ігра тых самых людзей, што ў леташнім маі сілай аружжа ратавалі „сацыяльную раўнавагу", якую пахіснула цераз меру ўжо цынічнае панаваньне буржуазіі...

Гэта зусім ясна відаць з апошняга выступленьня польскага тыднёвіка ў беларускай мове „Беларускі Дзень". Рэдакцыя гэнае часопісі, вельмі блізкая да віленскага ваяводзтва, вельмі сумуе, што выступленьне ідэйных сельсаюзьнікаў — д-ра Яна Станкевіча і ягонае групы — проці ярэмічавых сельсаюзьнікаў можа аслабіць веру сялянства (хоць яна нейк дагэтуль асабліва й не выяўлялася!) ў патрэбу існаваньня асобнай *выключна сялянскай* арганізацыі, аддзеленай ад агульнага руху процоўных мест і вёсак. І перадавік польскае часопісі пагражае сельсаюзьнікам, што—калі не пагодзяцца—дык сялянства бяз іх створыць свой... Беларускі Сялянскі Саюз, па ліку—трэці!

Побач з гэтымі клапотамі польскае газэты аб захаваньне за ўсялякую цану кіраўніцтва сельсаюзам у руках так мілых польскай буржуазіі паноў Ярэміча, Рагулі й Більдзюкевіча—трэба адзначыць паход паноў пэпээсаў (правіцы) *на месты Заходняе Беларусі*. Пэпээсы, якія на цэлым радзе выбараў у самаўрады ў этнаграфічнай Польшчы з трэскам праваліліся, выбітыя з займаных дагэтуль пазыцыяў больш левымі партыямі,—кінуліся на Заходнюю Беларусь — на месты яе, бо-ж тут на вёсцы ўжо і сьледу ад іх колішняе работы няма! І ў гэтым паходзе, як паказалі віленскія выбары, пэпээсы апіраюцца ня гэтулькі на работніцкія масы, колькі на лібэральную буржуазію, якая вельмі зацікаўлена, *каб нашае места ня лучылася з беларускай вёскай*, каб адгараджалася ад апошняе ня толькі арганізацыйна, але й нацыянальнай ахварбоўкай: праз пэпээсаў пануючая буржуазія хоча ўмацаваць польскія нацыянальныя ўплывы ў работніцкіх масах, якія патроху пачалі прыпамінаць, што яны *выйшлі ці-то з беларускае, ці-то з літоўскае вёскі...*

Мы лічым сваім абавязкам паставіць тутака побач два гэтыя зьявішчы, як вельмі характэрныя для нашых часоў. Хай яны расчыняць вочы тым, хто йшчэ не здалеў зразумець пабуджэньняў блізу ўсіх гэтых прапаведнікаў аддзяленьня нашага сялянства ад агульнага руху працоўных да сацыяльнага вызваленьня.

## Справа польскай пазыкі.

З розных бакоў ідуць весткі аб тым, што справа загранічнай пазыкі для Польшчы „адкладзена на восень", ці навет — на неабмяжаваны час...

З Лёндану даносіць карэспанд. „Кур. Варшавск": „У фінансавых колах вельмі ад'емна ацэніваюць пазыковыя магчымасьці з боку ангдійскіх і амэрыканскіх банкаў—да весені"...

Венская прэса, заўсёды добра паінфармаваная, даведалася, быццам амэрыканская пазыка, якая ўжо была зусім прызнана Польшчы, разьбілася ў апошнія дні... Амэрыканскія банкі быццам заявілі, што ня лічаць сучасны мамэнт адпаведным дзеля пазыкаў на эўрапэйскім рынку... Гэткім чынам, як даносіць з Вены карэспандэнт таго-ж „Варш. Кур'ера", — „польская стабілізацыйная пазыка адкладзена на неабмежаваны час"... Карэспандэнт толькі дадае, што газэта, якая падала гэту вестку, — орган лявіцы, а вестка ідзе—праз Бэрлін... Хіба-ж—невялікая пацеха!

Але вось самы польскія правыя газэты пішуць, што весткі ды чуткі аб адкладзе пазыкі—зусім падобны да праўды, тым больш, што ўрад маўчыць, як ваду ў рот набраўшы... Урад быццам абяцаў у тую пятніцу выдаць камунікат аб памысным стане перагавораў... Але вось ужо блізка тыдзень, як яго няма... Па Варшаве ходзяць чуткі, што перагаворы гэтыя раптам неяк спыніліся на мейсцы; амэрыканскія банкіры зрабіліся ня менш цьвердымі, як іх валюта... „Апрача матываў палітычных" (прэса ня кажа якіх, а было-б цікаўна даведацца дакладна), банкіры кажуць, што на амэрыканскім рынках цяпер вельмі нявыгадны час на пазыкі. — Эўропа грошы ня мае, дык усе эўрапэйскія пазыкі ў канцы канцоў перакінуты на амэрыканскі рынак... Гэты рынак запоўнены пазыковымі паперамі розных эўрапэйскіх драбнейшых дзяржаваў, якія (пэўна-ж пазыкі, але пакуль што не дзяржавы...) страшэнна ўпалі на курсе... Банкі, якія скупілі гэтыя пазыковыя паперы, ня могуць збыць іх шырокай публіцы. Дык цяпер, пры гэткім стане пазыковага рынку ў Амэрыцы, даваць якую небудзь новую пазыку банкам нявыгадна: гэта значыла-б — трымаць пазыковыя паперы ў сябе ў скрынях. А кінуць іх на рынак немагчыма, бо курс на іх спадзе страшэнна.—Напрыклад, пазыка Югаславіі, яшчэ навет не атрыманая ей, ужо спала на амэрыканскім рынку на 8%... З гэтага ўсяго ясна, што гэтыя банкіры прапануюць Польшчы прыняць такія варункі пазыкі, якія-б згары забясьпечылі іх ад рызыкі спадку курсу пазыкі... Або—пачакаюць на лепшыя часы. Дык ясна, насколькі нявыгадныя варункі прапануюць банкіры Польшчы, калі польскі ўрад, разумеючы ўсю небясьпеку пагражаючай краю катастрофы, ня хоча іх прыняць....

Што перагаворы аб пазыцы неяк спыніліся, відаць з таго, што п. Млынарскі, які іх вёў, паехаў адпачыць—у Друскенікі...

„Выгадны мамэнт для пазыкі, здаецца, прайшоў,—пішуць з Варшавы ў „Дзен. Віл.". Наша газэта прадбачыла гэта—пару месяцаў назад...

---

Урад — ня гледзячы на заявы правае прэсы — ўсё-ж такі запраўды апублікаваў праз афіцыяльнае агенцтва „ПАТ" апавяшчэньне ў справе пазыкі гэткага зьместу (падаем дакладна):

„З прычыны паяўленьня ў панядзелкавых газэтах вестак у справе загранічнай пазыкі, зусім фальшывых і, праўдападобна, тэндэнцыйнага характару (гэта значыць — умысна перакручаных.—Рэд.), паданых у прэсу „Польскім Публіцыстычным Агенцтвам",— Міністэрства Скарбу заяўляе: „Няпраўда, быццам перагаворы аб пазыцы сарваны. Фальшывая таксама вестка аб тэй групе банкіраў, з якой урад вядзе перагаворы аб пазыцы. Наадварот, група банкаў, якая вядзе перагаворы з урадам, складаецца з першарадных амэрыканскіх фірмаў, да якіх яшчэ далучыўся рад найпаважнейшых эўрапэйскіх фірмаў. Уласныя капіталы амэрыканскіх банкаў, якія вядуць перагаворы з урадам, даходзяць да сумы 200 мільён. даляраў; сумы балянсавыя—да 2 мільярдаў даляраў. Што-ж датычыць да сёньняшняга стану перагавораў, дык цяпер ідуць тэхнічныя працы, зьвязаныя з пазыкай, дый робяцца прыгатаваньні да яе рэалізацыі у мамэньце, **калі стан нью-іорскага і іншых сусьветных грашовых рынкаў будзе для ўсялякага роду загранічных пазыкаў больш памысны**" (падчырківаньне — нашае Рэд.).

У канцы камунікат пагражае судовай адказнасьцяй за публікаваньне фальшывых і шкодных для дзяржавы вестак аб пазыцы.

Мы ня ведаем, што падало прэсе „Польскае Публіцыстычнае Агенцтва", але сам урадавы камунікат ясна і бясспрэчна сцьвярджае, што „рэалізацыя пазыкі", ці прасьцей— атрыманьне грошы ў рукі польскага ўраду, — **адложана на час, калі эмісыйныя варункі сусьветнага грашовага рынку будуць больш памыснымі**. Прасьцей кажучы — на неазначаны, неабмежаваны час...

А як-раз у гэтым—найбольшая небясьпека для польскай валюты, ня кажучы ўжо аб усім іншым.

## „Прэч няпісьменнасьць"!

Пад гэтым лёзунгам ужо колькі гадоў ідзе шырокая праца ў Радавай Беларусі, маючы на мэце зьнішчожыць ліхую спадчыну ад царскіх часоў — няпісьменнасьць сярод беларускага сялянства. Ня кажучы ўжо аб другіх відах пазашкольнае асьветы, якая вядзецца тамака пры выдатнай дапамозе з боку дзяржавы, барацьба з няпісьменнасьцяй прадстаўляе, бадай, найбольш патрэбную і найбольш пашыраную працу ў кірунку культурнага падняцьця беларускіх сялянскіх масаў, для якіх старая ўлада блізу нічога рабіць не хацела, а калі й рабіла, дык рабіла неяк дужа неахвотна, нездаваляюча.

У Заходняй Беларусі наша пазашкольная асьвета абмяжоўвалася дагэтуль адно толькі закладзінамі бібліатэчак-чытальняў, дзе-не дзе ладжаньнем публічных лекцыяў, дзе-не-дзе—народных дамоў, тэатраў, хораў. Але ад хат-чытальняў могуць мець карысьць адно толькі людзі граматныя: для няпісьменных яны астаюцца зачыненымі. А што-ж можа для гэных цёмных людзей замяніць кніжку! Як расчыніць ім дзьверы да асьветы?

Ясна, што нашае грамадзянства і нашыя культурныя ўстановы павінны асаблівую ўвагу зьвярнуць на тое, каб даць нашаму няпісьменнаму сялянству ў рукі ключ, каб гэныя замкнёныя дзьверы адамкнуць. На гэту справу зварачае ўвагу грамадзянства д-р Ян Станкевіч, які піша ў выданай ім аднаднёўцы:

„У нас ёсьцяка значне інтэлігенцыі й поўінтэлігенцыі, у кожнай вёсцы знайдзецца свой інтэлігент, а часта й не адзін толькі". Вось і трэба, каб гэтая інтэлігенцыя й поўінтэлігенцыя навучыла сваіх няпісьменных братоў, сёстраў, а часта й бацькоў, пабеларуску чытаць, пісаць і лічыць.

„Гэта можна зрабіць пры помачы **курсаў для няпісьменных**. Курсамі такімі павінны мы ўсеяць усю Заходнюю Беларусь. Павінны гэткія курсы паўстаць у кожнай вёсцы, засьценку й мястэчку; павінны яны паўстаць і ў мястох, бо й тутака ёсьць няпісьменныя. Есьць крыху няпісьменных беларусаў і ў Вільні.

„Як арганізаваць гэткія курсы? Думаю, што гэтак. Усюды мясцовая інтэлігенцыя мае зыйсьціся і, параіўшыся паміж сабою, узяцца за **сьпісаньне няпісьменных**. Трэ' было-б запісаць: імя, прозьвішча, век, занятак, ці зусім няпісьменны, ці мо' ўмее чытаць, але ня ўмее пісаць, ці ў жаднай мове ня ўмее пісаць і чытаць, ці мо' толькі пабеларуску. З гэткага сьпісаньня будзе відаць, на якія групы падзяліць усіх няпісьменных дадзенае мясцовасьці, і хто з якой групай мае займацца. Трэба таксама знайсьці **памяшчэньне пад курсы**. Да восені трэба ўсё прыгатаваць, каб увосень пачаць заняткі. Хіба што ўсюды заняткі на курсах будуць увечары. Ведама, што справа курсаў для няпісьменных не павінна ані на часіну адхінуць нашае ўвагі ад дамаганьня беларускіх школаў.

„Каб справа курсаў для няпісьменных пайшла добра, павінны за яе ўзяцца ўсе беларускія культурна-асьветныя й навуковыя арганізацыі; усе газэты й часопісі беларускія павінны гэтую справу лічыць сваёю і сыстэматычна памагаць ёй. Беларускія культурна-асьветныя арганізацыі павінны даць помач і моральную й арганізацыйную. Калі-б гэтыя арганізацыі змаглі яшчэ даць хоць невялічкую **дапамогу матэрыяльную**, каторая пайшла-б на скромную плату вучачым (вучыцялём) на курсах, дык зусім было-б добра".

Але гэта йшчэ ня ўсё: бо-ж „апрача таго трэба помач пэдагагічная. Разрэзныя абэцэды, кніжкі да чытаньня й да гэт. пад. ёсьцяка, але нямаш яшчэ **мэтодыкаў, як вучыць чытаць і пісаць**. Можна быць чалавекам вельмі інтэлігентным, але, калі ня ведаеш, як узяцца за дзела, дык будзе цяжка вучачаму й вучаным. А тымчасам з кароткага мэтодычнага выкладу кожны болей-меней інтэлігентны чалавек лёгка зразумее, як пачынаць вучыць, а на практыцы й добра навытарыцца. Аб гэтых мэтодыках павінны загадзя паруліцца нашыя выдавецтвы".

Згаджаючыся з гэтай патрэбай, мы, аднак, мусім дапоўніць паданы тут праект — дадаткавым. Мала друкаваць падручнікі мэтодыкі: дзеля гэтага патрэбна **жывое слова і паказ**, чаго ня знойдзеш у кніжцы. Ня можа даць кніжка вычэрпываючага адказу й на цэлую масу пытаньняў і недаўменьняў, якія няўхільна будуць зьяўляцца ў ахвочых, але непадгатаваных вучыцялёў на праектаваных курсах для няпісьменных. Гэта зрабіць маглі-б толькі адумысныя **інструктарскія курсы** для будучых барацьбітаў з няпісьменнасьцяй, і гэтыя курсы трэба было-б з'арганізаваць хаця-б пры кожнай акружнай управе Т-ва Беларускае Школы. Тады-б цэлы рад людзей мог-бы прыступіць да працы з большай пэўнасьцяй, што яны пойдуць па належным шляху і споўняць, як сьлед, сваю вялікую задачу.

Гэта—адно. Другое датыча **выкарыстаньня дзеля барацьбы з няпісьменнасьцяй нашае перамогі на выбарах гмінных самаўрадаў**. Усюды, дзе ў гмінных радах мы маем і будзем мець большасьць, нашы радныя павінны паставіць, як **баявую задачу самаўраду**, арганізацыю курсаў для няпісьменных, — ведама, стаўляючы справу так, каб нашы „апякуны" не здалелі выкарыстаць гэтага важнага пачынаньня на нашу шкоду: каб не завялі на курсах польшчыны! Курсы мусяць быць бязумоўна беларускія, мусяць — даючы няпісьменнаму сялянству ключ да асьветы—адчыніць яму **перадусім кніжку ў роднай беларускай мове**.

Хай-жа нашыя новавыбраныя радныя паважна падумаюць аб гэтай нязвычайна важнай справе!

## У Польшчы.

### Цікаўныя рэзультаты выбараў у мястовыя самаўрады.

26 чэрвеня адбыліся выбары яшчэ ў 19 драбнейшых местах ды мястэчках у Польшчы, якія далі, паводле няпэўных яшчэ інфармацыяў, гэткія рэзультаты.

Правіца польская здабыла 128 манд.

Жыдоўскія буржуазныя сьпіскі і блёкі—89 мейсцаў.

Пэпээсы — 71 манд.

Урадавыя групы — 28 манд.

Камуністы — 23 манд.

Бунд — 19 манд.

Іншыя групы ды партыі здабылі ня больш 3—2—1 манд.

Паасобныя месты далі гэткія вынікі:

Напрыклад, у Цеханаве пэпээсы атрымалі 1 мандат, камуністы — 4, а ўрадавыя „санатары"—ніводнага...

У Насельску пэпээсы—1 манд., камуністы—4, правіца—6, а ўрадавыя групы — ніводнага...

У Паб'яніцкай Рудзе пэпээсы —1 манд., польская правіца — 5 манд., а камуністы (ў блёку з „незалежнымі")—аж 8...

У Мінску-Мазовецкім пэпээсы здабылі 2 мейсцы ў Радзе, урадавыя „санатары",—1, а камуністы—6 мейсцаў...

